НАВІНЫ РЭСПУБЛІКІ

## Вежы, якія мы выбіраем

*У Парыжы ёсць Эйфелева вежа. У Маскве — Астанкінская. Яны даўно сталі сімваламі гэтых гарадоў.*

Да нядаўняга часу адным з сімвалаў Мінска з'яўлялася тэлевізійная вежа старога тэлецэнтра на вуліцы Камуністычнай. Яна перастала быць ім пасля таго, як яе "абрэзалі" і прырабілі да яе "антэны-рогі".

Цяпер у Міністэрстве сувязі і інфарматыкі РБ разглядаюцца тэндэрныя прапановы па будаўніцтву новай радыётэлевізійнай вежы ў Мінску. У конкурсе ўдзельнічаюць 6 фірм з Кітая, Украіны, Італіі, Германіі, Чэхіі і сумесны беларуска-расійскі кансорцыум. Хто атрымае кантракт на ўзвядзенне вежы, стане вядома праз 2-3 месяцы. Будаўніцтва яе ў Мінску павінна быць завершана ў 2001 годзе.

## Прадпрымальнікі ўсіх краін яднаюцца

*Як сказаў прэзідэнт Беларускага саюза прадпрымальнікаў Уладзімір Карагін, дасягнута дамоўленасць аб стварэнні канфедэрацыі малога і сярэдняга бізнесу краін СНД.*

Заснавальнікамі новага аб'яднання будуць прадпрымальніцкія саюзы Беларусі, Расіі, Украіны, Малдовы, Казахстана, шэрагу сярэднеазіяцкіх рэспублік былога СССР. Для чаго аб'ядноўваюцца прадпрымальнікі? Ясная справа — для абароны сваіх інтарэсаў. Ад каго? І гэта зразумела — ад дзяржавы.

## Чуткі спраўдзіліся: бензін падаражэў

*Як і прадказвалі многія газеты, у Беларусі павышаны цэны на бензін і дызельнае паліва.*

Павышэнне адбылося праз рост ставак акцызаў, якія ўстанаўліваюцца для нафтаперапрацоўчых прадпрыемстваў. Стаўкі акцызаў узраслі на 30 працэнтаў, што адпаведна і прывяло да павелічэння аптовых і рознічных (у тым ліку і фіксаваных) цэн на гэтыя віды нафтапрадуктаў на 10 працэнтаў.

## У "чорным спісе" — 131 чыноўнік

*Краіны Еўрапейскага Саюза (15 дзяржаў) прынялі рашэнне не выдаваць візы беларускім чыноўнікам.*

Часова паверанныя ў справах Германіі, Францыі, Вялікабрытаніі, Італіі і Грэцыі зрабілі дэмарш Міністэрству замежных спраў. Яны запатрабавалі ад беларускіх уладаў стварыць нармальныя ўмовы для прабывання паслоў у рэзідэнцыях у Драздах. Дыпламаты перадалі кіраўніку беларускага знешнепалітычнага ведамства Івану Антановічу спіс дзяржаўных служачых, якім не будуць выдавацца ўязныя візы ў краіны Еўрасаюза. Пад санкцыі трапіла ўся беларуская "вярхушка" на чале з А. Лукашэнкам.

Дзяржаўныя служачыя нервуюцца і выказваюць абурэнне санкцыямі Еўрасаюза. У інтэрв'ю Інтэрфаксу шэф прэзідэнцкай адміністрацыі М. Мясніковіч прызнаўся, што "абмежаванне кантактаў на такім высокім узроўні нявыгаднае ні палітычна, ні эканамічна".

## Бацькі, рыхтуйце грошы на падручнікі!

*270 тысяч рублёў будзе каштаваць у наступным навучальным годзе карыстанне падручнікамі для адзінаццацікласнікаў. Бацькам пяцікласнікаў трэба будзе выкласці 164 тысячы, а для самых маленькіх, "падрыхтовачнікаў", спатрэбіцца 131 тысяча рублёў за камплект падручнікаў.*

Гэта вызначаныя міністэрствам кошты за "арэнду" кніжак на працягу года. Прычым сёлета ўпершыню іх можна будзе выкупіць ва ўласнасць і не вяртаць пасля ў бібліятэку. Поўны камплект каштуе ад 624 тыс. да 1 млн. 80 тыс. рублёў.

## Самагонка ў законе

*Прыняты ў першым чытанні закон "Аб дзяржаўным рэгуляванні вытворчасці і абароту алкагольнай прадукцыі" прадугледжвае легалізацыю самагонаварэння.*

Ідэя дэпутата ад Брэсцкай вобласці Пятра Жушмы ўвасобілася ў радкі закона — знята забарона на хатняе прыгатаванне алкагольных напояў для асабістага ўжывання. Праўда, выраблядць у адкрытую самагонку пакуль не варта — будзе яшчэ адно чытанне. А потым пад законам з'явіцца подпіс прэзідэнта.

*(Па старонках рэспубліканскіх газет).*

СКВОЗЬ ТЕРНИИ — В РЫНОК

# Как заставить работать малые реки?

За время бурной централизации системы электрификации и газификации и созданного изобилия энергетических ресурсов в бывшем СССР практически не только остановился процесс развития местного энергетического снабжения и резервирования, но еще и вдобавок постепенно уничтожались когда-то созданные местные источники энергии – мини-ГЭС, дизельные и ветряные электростанции, турбогенераторы на котельных. Эта централизация приостановила развитие и других преобразователей энергии.

Привязанность к источникам энергии других государств, расточительное использование энергетических ресурсов и отсутствие местного резервирования вынуждают энергоснабжающие организации ограничивать и даже отключать потребителей. Это прежде всего заставляет предприятия где-то по-настоящему экономить, а самых крупных из них – зачяться поиском дополнительных источников энергии уже у себя.

К примеру, специалисты водозабора «Щара» Барановичского производственного хлопчатобумажного объединения (ПХБО) решили построить на дамбе реки Щара, что около д. Миничи Ляховичского района, малую гидроэлектростанцию. Был разработан проект, но дело не пошло из-за отсутствия средств на строительство и оборудование. Картонно-бумажный завод «Альбертин» в Слониме решил смонтировать новую турбину и генератор на своей котельной и получать одновременно пар и электроэнергию, как это было раньше. Но дело не сдвинулось по той же причине.

Это примеры решения энергетических проблем традиционными методами, которыми обладают современные специалисты. Но есть и иные способы, не менее эффективные, как, скажем, использование энергии движущейся воды и самой воды для технологических нужд за счет применения так называемого гидротарана.

Гидротаран – это водоподъемное устройство (насос, изобретенный более 200 лет назад), работающий за счет энергии падающей или текущей воды и поднимающий себя до 10 раз выше перепада уровней, правда, поднимающий во столько же раз меньший объем жидкости. Минимальный перепад, при котором может работать таран, — 0,5 метра. В принципе работы его используется известное



многим такое негативное физическое явление, как гидравлический удар. Этот насос простой и дешевый как в производстве, так и в эксплуатации, не требует горючего, смазки, постоянного ухода.

Изготовить его можно, если есть сварочный аппарат и токарный станок, а из материала в основном – стальные лист и труба.

Из научно-технической информации известно, что широкие исследования, разработки и использование гидротаранов было налажено в Украине в 50—60-х годах, когда остро ощущалась потребность в энергии. Тогда они в основном применялись для подачи воды из криничек и рек на фермы и для полива огородов. Специально разработкой этих устройств занимался Украинский научно-исследовательский институт животноводства (г. Харьков). Им были достигнуты в то время хорошие результаты. Самый мощный таран УИЖ-500, установленный в колхозе им. Хрущева Харьковского района, подавал в минуту до 1500 метров воды и приводил в действие дождевальную установку.

В основном гидротараны могут поднимать воду на высоту, превышающую перепад воды не более чем в 10 раз, а таран УИЖ может подавать на высоту, превышающую перепад в 30 раз. Буквально несколько лет назад впервые зарегистрировано изобретение подводного гидротарана, который устанавливается на дне реки. Здесь используется энергия текущей воды, которая подается на берег.

Возникает вполне закономерный вопрос. Где сейчас можно найти практическое применение гидротарану в условиях Беларуси? Сначала вернемся к ситуации на гидроузле «Щара» и СКБЗ «Альбертин».

На гидроузле «Щара» сооружена дамба, которая затопила пойму реки Щара и подняла воду до 5 метров. Здесь же построена насосная станция для подачи воды по водоводу в город Барановичи для обеспечения прежде всего ПХБО, а также для технологических нужд предприятий энергетики, машиностроения, стройиндустрии. Эта станция мощностью около 1,5 тыс. киловатт создает давление от 2 до 4,5 атмосферы с производительностью до 17 тысяч метров кубических в сутки. Для питания электроэнергией насосов построены специальная линия электропередачи и подстанция напряжением 35 тысяч вольт. Потребление электроэнергии в месяц составляет от 80 до125 тысяч киловатт-часов. Примерно столько потребляют в Барановичах трикотажная фабрика и завод бытовай химии «Бархим» вместе взятые.

Как видно, водозабор «Щара» играет огромную роль в обеспечении промышленных предприятий технологической водой, но и как потребитель электроэнергии является очень энергоемким. И если нет возможности (финансовых средств) пока построить на р. Щара мини-ГЭС, так, может быть, стоит попробовать смонтировать гидротараны? Для этого необходимо применить наиболее мощный таран УИЖ-500. Его производительность составит примерно 700 литров в минуту, если вода будет сбрасываться с высоты четырех метров и подниматься на 40 метров, чтобы достичь давления около четырех атмосфер. Этот таран может подать примерно 1000 метров кубических воды в сутки. Достаточно восьми штук, чтобы заменить насосную станцию и получить экономию электроэнергии примерно 100 тысяч киловатт-часов в месяц.

СКБЗ «Альбертин» имеет свой водозабор на реке Исса, где насосная станция подает на производство воду. Здесь на дамбе высотой в 3 метра можно установить гидротараны и получить огромную экономию электроэнергии.

Не только промышленные предприятия имеют гидросооружения, но и сельское хозяйство обладает огромнейшими гидромелиоративными системами, возможности которых необходимо использовать. Так, например, на территории агрофирмы «Щара» Слонимского района протекает речушка Булянка, а в деревне Партизановка на ней построена дамба высотой более чем два метра. Сразе же возле дамбы расположен огород агрофирмы, где действует дождевальная установка. Как видно, есть возможность подавать на него часть воды из гидротарана.

На возможности использования гидротаранов, конечно, прежде всего хотелось бы обратить внимание потенциальных потребителей и предприятий мелиорации концерна «Белмельводхоза». Изготовить их несложно в любой механической мастерской, не говоря о заводах, которые охотно возьмутся за массовый выпуск.

*В. ДУБРОВКА.*
*г. Барановичи.*

ТАКОЕ ВОСЬ ЖЫЦЦЁ



*Гэты чалавек, пэўна, і не заўважае, што ў нашай краіне пануе небывалы эканамічны ўздым.*

*Фота А. ГАНЧУКА.*

КОНКУРС "НАШ ДОМ — БЕЛАРУСЬ"

## Педагог

Хто ім не быў,
ніяк не ўцяміць,
З якога сплаву педагог,
Чаму ў яго густая памяць,
З якіх яна прыйшла дарог?
Апроч яго, аб гэтым знае
Адзін у небе Існы Бог.
Як з розных траў,
з суквеццяў мая
Гартуе сплаў свой
педагог.
У сплаў цячэ струмень
надзеі,
Штодзень сталее
пакрысе.
Дзятва, як пчолы,
загудзела:
Пытанні сыпле яму ўсе.
У гэтым сплаве
ўсё святое,
І ён святы
заўжды між нас.
Ад'едзе лета залатое —
І загамоніць зноўку клас.
На парты лягуць
стосы кніжак
Пра родны кут,
пра наш парог.
Паклон аддайце,
дзеці, ніжай:
У клас заходзіць педагог.
У класе ён —
жыцця крыніца,
Нібы для каласоў-палі.
Дазволь табе
мне пакланіцца,
Агонь бяссмерця
запаліць.

*Пятро ВАЛІНСКІ.*
*Івацэвіцкі раён.*

Маладзёжная Газета для вас № 4

● АБИТУРИЕНТ—98

# Предстоит учиться мне...

*Для большого количества молодежи середина июля — неспокойное время. Заработал экзаменационный «конвейер» для абитуриентов, поступающих в различные учебные заведения республики. Так случилось, что и для Людмилы Соломки, одной из участниц нашего конкурса «Самая обаятельная и привлекательная», наступило это самое неспокойное время. Вот несколько ответов на вопросы от нашей газеты, на которые Людмила любезно согласилась ответить.*

**— Людмила, ты закончила 11-й класс. Что дальше?**

— Признаться честно, во время учебы в старших классах я терялась в догадках — какую профессию выбрать. Все-таки хочется угадать с первой попытки, чтобы потом не жалеть, не переучиваться. Школу я закончила на «4» и «5», но чувствовать себя слишком уверенно не приходится. Везде большой конкурс, мы, молодые, понимаем всю ценность образования, важность получения достойной профессии. Я выбрала Столинский аграрно-экономический колледж, специальность бухгалтерский учет. Через три дня первый экзамен. Волнуюсь и готовлюсь.

**— Скажи, Людмила, какие планы у твоих ровесников, бывших одноклассников?**

— Выпускной класс нашей Ходаковской СШ, которую я закончила, небольшой, поэтому можно конкретно указать — кто куда поступает.

Так один из моих одноклассников выбрал педагогический техникум, другие – медицинские училища. А лучшая подруга хочет стать поваром.

**— Людмила, ты вступаешь во взрослую жизнь. Оглядываясь назад, что ты хотела бы пожелать тем, кто сегодня еще ученик!**

— Не теряйте даром времени! В жизни много соблазнов, но важно выбрать цель, дорогу к ней и идти неуклонно. Бесцельная жизнь в конце концов приведет к накоплению проблем, которые самому надо и разгребать. Ну и учиться хорошо – вот что пожелала бы. Грамотные люди всеми уважаемы.

**— Людмила, многие девушки, выбирая профессию, мечтают о независимой богатой жизни. Каково твое мнение на этот счет!**

— Думаю, что это не самые скверные женские планы. Профессия и образование создают хорошую почву под ногами. Женщина в XXI веке, конечно, будет отличаться от женщин нашего века. Но я не думаю, что женская живая душа при всем этом существенно изменится. Любовь, взаимопонимание, женственность всегда ценились среди людей. Не сомневаюсь в том, что это будет цениться и в последствии. Образование, на мой взгляд, развивает эти качества.

**— Желаем тебе, Людмила, удачи и на вступительных экзаменах, и в жизни.**

— Спасибо. Всего хорошего и вам.

*А. ГОРБАЧ.*

## КОНКУРС "САМАЯ ОБАЯТЕЛЬНАЯ И ПРИВЛЕКАТЕЛЬНАЯ"



*ЛЮДМИЛА, 17 лет. Очень люблю танцевать. Люблю музыку, но считаю, что главная музыка — это музыка души. Много читаю. Любимая группа "Белый орёл". Характер мягкий, уступчивый. По гороскопу — Рак. Надеюсь удачно выйти замуж. Думаю, что буду хорошей женой.*

● КУМИРЫ

# "Звездный" стандарт



**Валерий Леонтьев** зарегистрировал свой брак в Соединенных Штатах. Только вот его избранницей стала не американка, а ... бывшая жена певца — Людмила. "Наши взаимоотношения с Люсей — вообще странная история, — говорит Валерий. — Несколько лет назад я взял ее с собой на гастроли в Штаты, и там она неожиданно решила остаться. Навсегда. Я изредка навещал ее, и вот недавно мы, поняв, что не можем друг без друга, вновь расписались. Впрочем, в Россию Люся не вернется.



**Надежда Бабкина** теперь свободная женщина. В последние годы ее отношения с мужем Володей становились все хуже и хуже. Развод. "Воздыхатели всегда были вокруг меня. Молодой, с которым я появляюсь на вечеринках, — Саша Евдокимов, начинающий артист из Твери (не путать с известным юмористом!) А что касается друзей постарше... Есть, есть такой. Но он человек из правительственных структур, и настолько известный, что имя его не назову — боюсь. Вот за него бы замуж пошла, да пока не зовет..."



**Клаудиа Шиффер** как ни увлекается своей внешностью, все ж таки больше всего внимания придает бюсту. "Больше всего я забочусь о своей груди и не менее трех раз в день делаю специальную гимнастику.

Для большей пользы применяю полуторакилограммовые гантели. Есть ли результат? Еще бы! Все ж таки я — первая красавица планеты, а не кто-то".



Воспитание своей дочери **Мадонна** не доверяет никому, даже отцу ребенка. Отец девочки — личный тренер Мадонны. "Карлос нужен был всего лишь на роль производителя, и после рождения ребенка я потеряла к нему всякий интерес", — утверждает эта популярная певица.

— Я решила что три года ни на день не буду разлучаться со своей малышкой Лурдос.

Поэтому Лурдос сопровождает маму-певицу даже в гастрольных поездках.

**Филипп Киркоров** признается, что концертный зал для него начинается не с вешалки, а... с туалета.

"Я сужу о зрителях и о хозяине зала по туалету. Если там грязно, нет бумаги, мыла, салфеток, зато есть дурной запах и двери висят на одной петле, значит, и хозяева такие же".

Кстати, специалисты Центра компьютерного моделирования (Москва) спрогнозировали, как будут выглядеть А. Пугачева и Ф. Киркоров через 20 лет счастливой семейной жизни (смотрите нижний снимок).



● ТАЛАНТЫ ВОКРУГ НАС

# Строки, идущие от сердца

*"Я люблю свои воспоминания" — так называется недавно увидевший свет сборник стихов выпускницы Первомайской СШ Березовского района Светланы Антончик. "Где-то по-детски наивные, а где-то повзрослому серьезные, они выделяются, прежде всего, своей искренностью, позволяют заглянуть во внутренний мир, в чувства самой Светланы", — так сказано в аннотации, посвященной выходу сборника. Кстати сказать, "Газета для вас" давно следит за творчеством юной поэтессы, многие ее стихи увидели свет на страницах нашего издания. Предлагаем еще несколько стихов из первого сборника.*




### XXX

Когда тебе хочется
ласки,
Когда тебе хочется
нежности,
Сними свою
злобную маску,
Вдохни в себя легкость
и свежесть.
Весь мир станет светлым
и ярким,
И нежное пение птиц
Душу наполнит
желанием жарким
Другим свою нежность
дарить.

### ПРОСТИ

Прости за то, что я такая,
За то, что глупость часто говорю.
Я за одни слова лишь отвечаю —
И лишь за те, что я тебя люблю.

Прости меня за все мои ошибки,
За все безумные, холодные слова,
Прости меня за злобные улыбки,
За то, что я бываю неправа.

Прости меня за то, что я порою
Смеялась дерзко над тобой,
Я обещаю стать совсем другою,
Прости меня и будь всегда со мной.

### XXX

Вся наша жизнь —
сплошное ожиданье.
И мы уже не знаем,
что мы ждем.
Вся наша жизнь — лишь
вечное дрожанье,
И мы дрожим, как листья
под дождем.
Вся наша жизнь —
безумное исканье,
И мы уже не знаем,
как нам быть...
Нам есть одно лишь
оправданье —
Мы просто
не умеем жить.

### XXX

Море.
Небо пеленой застлали
Тучи голубых небес.
Горе.
Люди жить устали,
Миром правит бес.
Низко
Землю затянуло
Серой пеленой.
Близко
Счастье утонуло
На траве сырой.

● КОЛА ДУМАК

# СЁННЯ І ЗАЎТРА ПТВ-162

*Аб сённяшнім і заўтрашнім дні Івацэвіцкага прафесіянальна-тэхнічнага вучылішча №162 наш карэспандэнт гутарыць з яго дырэктарам Г. І. ВАРАНОВІЧАМ.*





**— У кастрычніку гэтага года Вашаму вучылішчу спаўняецца 20 гадоў. Які ваш настрой, Георгій Іванавіч, напярэдадні гэтай сціплай даты?**

— Нягледзячы ні на што, настрой у мяне заўсёды рабочы. Калі ж гаварыць пра дату, то больш як палову гэтага тэрміну я працую ў вучылішчы. За прайшоўшы час створана добрая матэрыяльна-тэхнічная база, удасканалена праграма навучання і выхавання, павялічылася колькасць навучэнцаў, а таксама спецыяльнасцяў, якімі авалодваюць юнакі і дзяўчаты.

**— Па якіх спецыяльнасцях займаліся і будуць займацца ў новым навучальным годзе Вашы навучэнцы?**

— Сёння мы рыхтуем сваіх навучэнцаў па дзвюх асноўных спецыяльнасцях: на базе няпоўнай сярэдняй школы — майстроў сельскагаспадарчай вытворчасці. Навучэнцы атрымліваюць прафесіі трактарыста, слесара, вадзіцеля аўтамабіля, а таксама прафесія па выбару — зваршчыка, электраманцёра ці токара.

А дзяўчат рыхтуем па спецыяльнасці гаспадыня сядзібы. Гэта ўключае ў сябе прафесіі палявода, агародніка, повара і швачкі.

На базе сярэдняй школы мы рыхтуем майстроў сельскагаспадарчай вытворчасці. Навучэнцы набываюць прафесіі слесара, трактарыста, вадзіцеля аўтамабіля.

Тэрмін навучання на базе няпоўнай сярэдняй школы — тры гады, на базе сярэдняй школы — дзесяць месяцаў.

Навучэнцы, што займаюцца ў нас тры гады, да таго ж атрымліваюць яшчэ дакумент аб сярэдняй адукацыі.

Атрымаўшы названыя прафесіі, нашы выпускнікі могуць уладкавацца на працу ў любым месцы.

Ужо на працягу некалькіх гадоў мы набіраем групу (12-15 чалавек) дзяцей-сіратаў, пераважна са школ-інтэрнатаў, і вучым іх плодаагародніцтву.

**— Георгій Іванавіч, скажыце, калі ласка, у наступным навучальным годзе чакаецца штосьці новае ў рабоце вучылішча?**

— Так, новае абавязкова будзе. Без гэтага нельга рухацца наперад. Да першага верасня неабходна абсталяваць лабараторыю для падрыхтоўкі электраманцёраў. Справа ў тым, што ў розных галінах гаспадаркі не толькі нашага раёна, але і суседніх, не хапае такіх спецыялістаў. І праз цэнтр занятасці будзе магчымасць рыхтаваць іх. Тэрмін вучобы — шэсць месяцаў.

І яшчэ. З новага навучальнага года ў нас будзе адкрыты так званы ліцэйны клас па спецыяльнасці майстар сельскагаспадарчай вытворчасці. У ім будуць займацца па асобнай праграме больш моцныя навучэнцы. Пасля заканчэння вучылішча яны будуць мець магчымасць па-за конкурсам без уступных экзаменаў паступіць у навучальныя ўстановы сельскагаспадарчага профілю.

**— Значыць, для тых, хто хоча і жадае вучыцца, у вучылішчы ёсць усе магчымасці. Ці не так, Георгій Іванавіч?**

— Абсалютна так. Для тых, хто хоча вучыцца, у нас адкрыта дарога для бесперапыннай падрыхтоўкі. Гэта вызначана загадам міністраў адукацыі і сельскай гаспадаркі аб сістэме бесперапыннай падрыхтоўкі кадраў.

Лепшых выпускнікоў мы накіроўваем на вучобу ў Беларускі аграрна-тэхнічны ўніверсітэт без здачы ўступных экзаменаў, прайшоўшы толькі субясе-даванне. Такія рабяты былі ў нас летась, ёсць яны і сёлета.

Штогод мы даём накіраванні і рэкамендацыі педсавета сваім выпускнікам на вучобу ў тэхнікумы і ВНУ. Сёлета іх выдалі 46. Як правіла, палова нашых выпускнікоў паступае ў выбраныя навучальныя ўстановы.

Нашы выпускнікі паступаюць у тэхнікумы і ВНУ не толькі сельскагаспадарчага профілю. Яны паспяхова займаюцца ў Брэсцкім дзяржуніверсітэце, Брэсцкім політэхнічным інстытуце. Многія рабяты паступілі ў ваенныя вучылішчы.

**— Георгій Іванавіч, Вы ўжо сказалі, што матэрыяльна-тэхнічная база вучылішча адпавядае сучасным патрабаванням па ўсіх накірунках. А калі расшыфраваць гэта, перавесці, так сказаць, на простую, зразумелую для ўсіх мову?**

— Гэта можна. Пачну з таго, што ў вучылішчы ёсць усе неабходныя майстэрні, кабінеты, тэхніка, багатая бібліятэка, дысказала, тры спартыўныя залы. Усе навучэнцы, хто не мае кватэры, жывуць у добраўпарадкаваным інтэрнаце. Рабяты, якія прыйшлі да нас пасля няпоўнай сярэдняй школы, поўнасцю забяспечваюцца харчаваннем.

Вучылішча мае сваю вучэбную гаспадарку — 400 гектараў зямлі. Ёсць неабходная глебаапрацоўчая тэхніка і прычапныя машыны. Трымаем ферму буйной рагатай жывёлы і свіней. Тут навучэнцы праходзяць практыку, набываюць навыкі працы. Частка прадукцыі, што тут атрымліваецца, ідзе для патрэб нашай сталовай. Дарэчы, сталовую мы ўзялі на свой баланс, адмовіўшыся ад паслуг Івацэвіцкага аб'яднання грамадскага харчавання. Нашы навучэнцы адразу адчулі, што стравы сталі гатавацца смачнейшыя.

**— У вучылішча паступаюць на вучобу выпускнікі школ не толькі Івацэвіцкага, але і суседніх раёнаў. Каго Вы, Георгій Іванавіч, прымаеце ў першую чаргу?**

— У адпаведнасці з рашэннем абл-выканкама, у першую чаргу прымаем дзяцей-сірат, дзяцей з малазабяспечаных і няпоўных сямей. Увогуле стаўку робім на жыхароў сельскай мясцовасці.

Мы прасілі і просім штогод кіраўніцтва раёнаў, каб гаспадаркі накіроўвалі да нас на вучобу маладых людзей. Іх без абмежаванняў мы прымаем на вучобу, бо ведаем, што яны абавязкова вернуцца туды, адкуль прыехалі, што дзяржава не дарма затраціць сродкі на іх навучанне.

**— Георгій Іванавіч, штогод з Вашага вучылішча выходзяць 250-270 спецыялістаў для вёскі. Па звестках з гаспадарак, усё ж гэтых кадраў яшчэ не хапае. На Ваш погляд, як ліквідаваць такі недахоп?**

— На жаль, кадраў не хапае. У той жа час падрыхтоўкай іх ніхто па-сапраўднаму не займаецца. Нават калгасы рэдка накіроўваюць да нас сваю моладзь. Здавалася б, што прасцей. Але ж і ў вёсцы ёсць свае важкія праблемы. Зарплата механізатараў самая нізкая, выплачваецца з затрымкамі. Таму тыя ж механізатары бягуць з вёскі, уладкоўваюцца нават не па спецыяльнасці, каб толькі нешта зарабіць на пражыццё. Думаю, калі палепшыцца эканамічнае становішча нашых калгасаў, то і з падрыхтоўкай механізатарскіх кадраў не будзе пытанняў.

**— Падрыхтоўкай механізатараў, акрамя Вашага вучылішча, Георгій Іванавіч, займаюцца міжшкольныя вытворчыя камбінаты і вучэбны камбінат пры ўпраўленні сельскай гаспадаркі і харчавання Івацэвіцкага райвыканкама. Як на Вашу думку, ці адчуваецца тут нейкая канкурэнцыя?**

— Скажу прама, што канкурэнцыі аніякай. Але разам з тым, калі параўноўваць узровень падрыхтоўкі нашых навучэнцаў з камбінатаўскім, то розніца істотная. Гэта, у прыватнасці, адзначае штогод служба дзяржспецтэхнагляду пры прыёме кваліфікацыйных экзаменаў.

Мы ставілі пытанне, была распрацавана і дакументацыя па стварэнні адзінага навучальнага цэнтра на базе вучылішча для падрыхтоўкі кадраў. Я і сёння лічу, што было б правільна, каб школьныя вучэбныя камбінаты давалі толькі накірунак той ці іншай спецыяльнасці, а грунтоўную прафесійную падрыхтоўку вяло б менавіта вучылішча, дзе ёсць адпаведная матэрыяльная база.

Я не хачу сказаць, што зусім дрэнная база ў тых камбінатах, але з нашай усё-такі параўноўваць ніяк нельга.

Відаць, было б правільна, каб і перападрыхтоўкай кадраў, асабліва па новай тэхніцы, займаліся на адзінай базе, можна і ў вучылішчы. І рабілі гэта кваліфікаваныя кадры. Сродкі затрацілі б невялікія, а аддача была б значная.

Я цікавіўся і цікаўлюся сістэмай перападрыхтоўкі кадраў за мяжой. І ўпэўніўся ў тым, што фермер ніколі не шкадуе часу на вывучэнне новай тэхнікі і тэхналогіі, не гаворачы ўжо аб сродках, і абавязкова едзе на перападрыхтоўку. У нас, на жаль, гэтае пытанне рашаецца з цяжкасцю.

**— Нягледзячы ні на што, усё ж у вучылішча ідуць выпускнікі. Што на Ваш погляд, Георгій Іванавіч, вабіць маладых людзей?**

— Ведаеце, час ідзе і многае мяняецца і пераасэнсоўваецца. Я ўжо сказаў, каго мы ў першую чаргу прымаем на вучобу. А з тых, што застаюцца, мы выбіраем лепшых. Не ўсіх прымаем агулам, як раней. Яшчэ некалькі гадоў таму так і казалі, маўляў, чаго старацца вучыцца, трактарыстам заўсёды будзеш. Сапраўды, трактарыстам будзеш, але ж якім? Быць механізатарам у поўным сэнсе гэтага слова зусім не проста.

Трэба зазначыць, што навучанне ў нас бясплатнае (маецца ў ўвазе для навучэнцаў). Да таго ж рабяты, што вучацца ў нас пасля сярэдняй школы, атрымліваюць яшчэ стыпендыю (паўтары мінімальныя зарплаты). Праўда, гэтая стыпендыя невялікая, а ўсё ж падмога.

Хачу асобна падкрэсліць, што тыя калгасы і саўгасы, якія накіроўвалі або будуць накіроўваць на вучобу сваіх маладых людзей, ніякіх матэрыяльных затрат не нясуць. Так што турбавацца не трэба.

**— Але ж нясе затраты дзяржава. І не толькі на стыпендыю навучэнцам, утрымання інтэрната, арганізацыю харчавання і г. д., але ж і на аплату працы ўсіх работнікаў вучылішча. Ці ёсць тут сёння нейкія праблемы, Георгій Іванавіч?**

— Мы ўсе чамусьці прывучаны да розных цяжкасцей і праблем. Калі б іх наогул не існавала, як было б намнога лягчэй і прасцей працаваць.

Нас хвалюе тое, што зарплата педагагічных кадраў зусім невысокая. Але ж настаўнікі не прывыклі бегаць з месца на месца ў пошуках лёгкага хлеба. Зарплата ж выплачваецца ў большасці рэгулярна.

Педкалектыў у нас стабільны. Зваль няюцца настаўнікі толькі ў рэдкіх выпадках. Горш з майстрамі вытворчага навучання. Іх заўсёды ў нас не хапае. Прычына адна — нізкая зарплата, і спецыялісты шукаюць больш аплачваемую работу.

**— Як я зразумеў, і навучэнцы, і настаўнікі, і майстры жывуць агульнай вялікай сям'ёй, агульнымі клопатамі. І, відаць, не памылюся, калі скажу, што і радасць, і няўдачы яны дзеляць напалам.**

— Сапраўды, так. Нашы навучэнцы, калі нейкая радасць ці бяда, часцей звяртаюцца да нас, педагогаў, чым да бацькоў. Гэта аб многім гаворыць. У нас працуюць настаўнікі, якія любяць дзяцей, і ў многіх выпадках з'яўляюцца для іх і бацькам і маці. Наогул маральны клімат у калектыве нядрэнны. Сярод навучэнцаў, праўда, ёсць дробныя парушальнікі. Калі ж уліччыць, што яны з самых розных сямей, што ў іх рознае сямейнае становішча, то стане зразумелым, чаму я аб гэтым гавару. Як пацверджанне такой думкі, наступныя лічбы. У вучылішчы займаецца 720 навучэнцаў. 131 з іх — з мнагадзетных сямей, у 150 — няма бацькі, у 10 — маці, 12 чалавек — сіраты.

Дзецям з такіх сямей мы, як можам, стараемся дапамагаць. Усё ж дробныя выпадкі недысцыплінаванасці па-за сценамі вучылішча, на жаль, не пераваліся. А ў цэлым рабяты ў нас нядрэнныя. Яны здольныя да вучобы і маюць магчымасць выйсці з вучылішча выдатнымі спецыялістамі і, канешне, добрымі людзьмі.

І на заканчэнне (аб усім, вядома, не раскажаш) хачу звярнуцца да маладых людзей: прыходзьце да нас вучыцца, не пашкадуеце. Іменна вучыцца, а не бавіць час. У нас створаны ўсе ўмовы для плённай вучобы, працы і адпачынку.

**— Дзякую, Георгій Іванавіч, за гутарку. Поспехаў Вам і ўсяму калектыву ў жыцці і працы.**

*Гутарыў С. КАЖАДУБ.*





*НА ЗДЫМКАХ: Івацэвіцкае ПТВ-162; ля трактара навучэнцы; як хочацца стаць поварам; на праполцы ў агародзе.*

*Фота А. ГАНЧУКА.*

